Іскры Ільіча

ШТОМЕСЯЧНАЯ ЧАСОПІСЬ
ДЛЯ ДЗЯЦЕЙ МАЛОДШАГА ЎЗРОСТУ

САКАВІК 1934 № 3

# МЫ—ШЭФЫ МАЛАДНЯКА

У прошлым годзе калгасы дабіліся высокіх ураджаяў. Лепшыя калгаснікі-ўдарнікі становяцца заможнымі. Але ў нашых калгасах яшчэ мала жывёлы. І гэта вялікі недахоп у рабоце калгасаў.

На 17-м з'ездзе партыі таварыш Сталін паставіў перад калгасамі і ўсёй краінай задачу—як найхутчэй дабіцца павялічэння стада жывёлы: коняй, кароў, свіней, авец і інш.

І ўся партыя, усе калгаснікі адказалі свайму любімаму правадыру ўдарнай работай па гадоўлі жывёлы.

Піонеры і окцябрата—шэфы маладняка. Будзем дабівацца, каб ніводнае цялё, ніводнае жарабё, ягнё, парасё не загінулі ад дрэннага догляду.

Прэч шкоднікаў, зладзеяў, гультаёў з нашых калгасных хлявоў! Усе павінны клапаціцца аб калгасным маладняку, працаваць чэсна, ударна.

НАМ ТРЭБА МНОГА МЯСА
І МНОГА МАЛАКА,
МІЛЬЁНЫ МЫ ГАДУЕМ
ЦЯЛЯТ—МАЛАДНЯКА.

КАЛГАСАМ І СОЎГАСАМ
МЫ БУДЗЕМ ПАМАГАЦЬ,
КАБ ГЭТЫЯ МІЛЬЁНЫ
СКАРЭЙ НАГАДАВАЦЬ.



**ПІОНЕР:** Таварыш Варашылаў, будзьце пэўны, нашых падшэфных мы даглядзім добра.

Ал. Пальчэўскі.



# Зломаная іголка





(АПАВЯДАННЕ ШЭФА)

Малюнкі А. Волкава

Дзядзька Ціхон не вельмі гаваркі чалавек. І ў гэтай маўклівасці ёсць нейкая нутраная скрытасць. Два месяцы мы ўжо шэфствуем над цялятамі і сёе-тое зразумелі самі як іх даглядаць. А вот дзядзька Ціхон—даглядчык на ферме—дык ніколі не раскажа пра сваю работу.

У мяне кожны раз, як толькі пачынаю грэбенем чысціць сваю „Сойку", з'яўляецца думка: „Чаму гэта худнее мая падшэфная, што аж шэрсць дубка становіцца? Яе даглядае і дзядзька Ціхон і я, ды нічога не памагае". А мне шкада „Сойкі". Яна ласкава глядзіць на мяне разумнымі вачыма, працягвае галаву, каб я яе пачухаў.

Нарэшце я даведаўся—не толькі мая падшэфная худняе, але і Нінчына такая-ж, і Косцікава не адстае ад нашых. Цікава нам, што такое творыцца з цялятамі.

Вось аднаго разу, не так даўно, Косцік і пытае ў дзядзькі Ціхона:

— Чаму гэта нашы цялята не папраўляюцца, а худняюць? Вы-ж даглядчык, павінны ведаць?..

— А вы-ж мае памагатыя. Адкуль я ведаю—можа хворыя, спытайце ў іх...

А Нінка гэтым часам стаяла поблізу і кажа:

— Адкуль-жа дзядзьку ведаць усё. Ён дае той корм, што атрымлівае ад загадчыка гаспадаркі. Думаеш, ён сабе бярэ,—сказала гэта і засмяялася. Яна ў нас заўсёды такая: скажа што-небудзь, а пасля засмяецца.

Нічога не адказаў дзядзька Ціхон, толькі злосна буркнуў сам сабе, пакруціўшы галавою: „Ну і дзеткі цяперашнія".

---

Я выказаў свае меркаванні важатаму. Ён выслухаў мяне ўважліва і параіў, што зрабіць, каб упэўніцца ў сваіх думках.

І неўзабаве, у свой выхадны, я памагаў цэлы дзень дзядзьку Ціхону даглядаць цялят. Ён не вельмі ласкава прыняў мяне, але я сказаў, што хачу азнаёміцца як на цятніку ідзе работа, бо мне ў школе трэба напісаць пісьмовую работу пра гэта.

— Вось як! А ты не маніш часам? — падазрона паглядзеў Ціхон і тут-жа ласкавейшым тонам дадаў:—Глядзі, глядзі, не лёгкая работа, не пазайздросціш.

У гэты дзень я, упершыню за два месяцы нашага шэфства, заўважыў — цялята чыста выелі дадзены ім корм. Увечары я спытаў пра гэта ў дзядзькі Ціхона. Ён адказаў, што сёння лепшая мякіна і болей выдалі мукі і картофель.

Мне дзіўна стала: няўжо гэта цялятам адзін дзень даюць есці больш, а другі менш?

---

У хуткім часе пасля дзяжурства на цятніку я прышоў туды адзін—ішоў са школы і зайшоў. Са злосцю накінуўся на мяне Ціхон, нават не даў і блізка падыйсці да свае падшэфнае—у дзвярах спаткаў:



— Бачыш, Грышка, што вашы піонеры вытвараюць?—і паказвае мне цвік з адсечанаю плешкаю і вялікую іголку з адломаным вушкам.—Добрыя яны памочнікі. Такіх-та цялят хацелі мне са свету звесці!

— Дзе вы ўзялі гэта?—пытаю я, а сам аж дрыжу ад злосці.

— Дзе? Вось гэты цвік у Косцікавай падшэфнай, а голку ў Нінчынай.

— Не можа быць! — вырываецца ў мяне.

— Як-жа не можа быць, калі вось факт ясны, — пакручвае ў руках цвік і голку Ціхон.

На нашу гаворку найшла цётка Параска. Здзіўлена глядзіць, круціць галавою, у тахт гаворыць Ціхону:

— Гэта-ж добра, што знашоў ты, Ціхонка, а то на нас бяда была-б.

— Канешне на нас, мы-ж даглядчыкамі лічымся. А што тут акрамя нас даглядчыкаў повен цялятнік, дык ніхто і не падумае на іх гаварыць.

— Я прывяду пабягу Нінку і Косціка. Я іх зараз сюды дастаўлю. Што яны скажуць?—сказаў я і выбег.

— Можаш і не дастаўляць. Я ўсёроўна падам сёння заяву ў праўленне, — пачуў я ўжо каля парога спакойны адказ Ціхона.

У той-жа дзень Ціхон падаў у праўленне калгаса заяву на Косціка і Нінку. Ён абвінаваціў іх у злачынстве.

---

Усё да макулінкі расказаў я важатаму. А той, як нічога страшнага не адбылося, гаворыць:

— Не бядуй, я схаджу потым да старшыні калгаса. А цяпер пойдзем да Нінкі і Косціка,—што яны скажуць.

Прышлі мы да іх, а яны ўжо збіраліся ісці да падшэфных сваіх. У нас так заве-

дзена—падвечар хадзіць на цялятнік. Як расказаў я ім пра ўсё, дык Косцік аж збялеў у твары, Нінка ў плач. А важаты сур'ёзна перапыняе іх:

— Без плачу, без шуму. Усё высветліцца.

---

На праўленні калгаса Ціхонавай заявы адразу не разбіралі, адлажылі на некаторы час.

— Трэба лепей выявіць злачынцаў, а тады мы іх падцягнем, — сказаў старшыня калгаса. — А Нінку і Косціка ў цялятнік пускаць нельга. Глядзі за імі.

— Іх-бы, таварыш старшыня, усіх адтуль зняць. Не такая ўжо вялікая помач, а згубы могуць нарабіць,—падыходзіў здалёк да свае мэты Ціхон.

— Паглядзім, паглядзім, як яшчэ з гэтымі высветліцца, не спяшайся.

Крыўдна Косціку і Нінцы, што іх шкоднікамі прызналі, а даказаць трудна. Сумуюць рабята, а зрабіць нічога не могуць, каб апраўдацца.

Шкада мне іх, вельмі шкада! Усе ідуць на цялятнік, а ім нельга. А калі высветліцца ўсё — невядома. І падшэфныя іх: „Півоня“ і „Маліна“ засталіся без шэфаў.

Мне не дае супакою адна думка: „Чаму іменна ў Нінчынай і Косцікавай падшэфных знойдзена гэта?“ І адразу цвёрда вырашаю: я вывяду ўсё на чыстую ваду! Можа не заўтра, дык праз некалькі дзён...

---

Важаты дазволіў мне хадзіць на цялятнік у любы час. Для маіх планаў гэта добра: цяпер я змагу лепей наглядаць да дзядзькам Ціхонам.

Учора не было ў нас аднаго ўрока — захварэў настаўнік. Я, нікому нічога не гаворачы, выбег са школы. І толькі падыходжу к цялятніку, бачу—праз другія дзверы выйшла нейкая жанчына і пайшла на вуліцу. Я думаў гэта цётка Параска — даглядчыца. Заходжу ў сярэдзіну, ажно не — яна тут. Спытаў у дзядзькі Ціхона, а ён кажа:

— Жонка заходзіла, пытала, ці будзем у млын пасылаць, калгас вязе...

Тут я зусім западозрыў дзядзьку Ціхона ў нейкіх штуках. Увесь вечар мне розныя думкі не давалі супакою. Нарэшце я прыдумаў...

Назаўтра мне ў школе запісалі прагул. Маё-ж прозвішча на чорную дошку вывесілі, як зрыўшчыка вучобы. Я іх і не вінавачу, бо калі-б яны ведалі дзе я, дык напэўна на чырвоную-б вывесілі маё прозвішча.

---

Увечары ўся школа, увесь калгас ведалі пра Ціхонавы штукі.

На сходзе дзядзька Ліпень, пажылы калгаснік, трымаючы ў трох пальцах левае рукі цвічок без плешкі, са злосцю гаварыў:

— Такія цвікі ў абцасах насіць толькі, а іх ліха ведама дзе знаходзяць... „Добры“ дагляд, „добры“!..



— А гэту іголку яму ў горла паставіць рубам, — крычалі з другога кутка, — няхай сам паспрабуе гэта дабро, што рыхтаваў другім.

Ціхон маўчаў. Ну што ён будзе гаварыць, калі злавіў я яго на месцы злачынства, і злавіў вельмі спрытна. Насыпаў ён мукі ў патайныя кішэні сваёй ватоўкі (на гэты раз цётка Мар'яна не прышла) і вышаў з хлява, мусіць, хацеў ісці ўжо дахаты. А я з цёмнага кутка выскачыў, ды да яго, задыхаўшыся, нібы праз другія дзверы ўбег:

— Скарэй, кажу, ідзіце, вас клічуць у праўленне калгаса!

— На што я ім патрэбен,—здзівіўся Ціхон.

— Не ведаю, казалі, каб ішлі. Нейкі ўчот цялят робяць.

Прышлі мы ў канцэлярыю калгаса і тут я ўсё выкрыў. Абшукалі — праўду кажу: мука ёсць! А ў верхняй кішэні знайшлі старое заржаўленае пяро. Не здарма я, значыць, прасядзеў столькі-та часу ў кутку!

Назаўтра такое-ж пяро Пятрусь знайшоў у свайго падшэфнага. Відаць, Ціхон хацеў выжыць Петрыка, а разам з ім і ўсіх нас, але на гэты раз не ўдалося. Усе выжылі яго аднаго. А каб не выжылі, дык да вясны цялята напэўна ногі павыцягвалі-б пры такім доглядзе.

Цяпер канешне ўсім было ясна: і Ніна і Косцік не былі вінаваты. Вінаватым быў злодзей Ціхон.



# РАБОТА Ў НАС АГУЛЬНАЯ

Квітнее праца вольная!
Ўвесь год завод гудзе:
Работа тут супольная,
Ударная ідзе.

**РАБОЧЫ.**

Нам шмат патрэбна сеялак
І многа трактароў,
Каб да сяўбы вясенняе,
Саюз наш быў гатоў!

**ПАРАВОЗ.**

Баяўся ці паспею я?
Ляцеў аж землю трос.
Прывёз к сяўбе я сеялкі
І трактары прывёз!

**КАЛГАСНІК.**

Мы ў горад не парожнімі
Вагоны адашлём,
А з бульбай і гароднінай,
Ільном і малаком!

* * *

Калгаснікі,
    Рабочыя!
Мы—тут,
    Вы—там.
Работа ў нас агульная,
Агульны план.

А. Якімовіч




*(Урывак з аповесці).*

... Алёшка зноў асмеліўся пайсці ў бор з сваёй неразлучнай рагаткай. Падыходзіла якраз пара плесці кашы, работа, якая асабліва яму падабалася. А дзе-ж дастанеш патрэбныя для гэтага абручы і карані? Ясна— толькі ў бары.

На высокім грудку, на краі бору, расла маладая елка. Лапкі яе былі самымі зручнымі для абручоў на кош. Алёшка гэта даўно ўжо прымеціў. Каб не заходзіць далёка, ён і залез на гэтую елку.

З высокай верхавіны перад ім адкрываўся цікавы і прыгожы краявід: вузкая палоса спелага ячменю, потым каранастыя нібы купіны кусты, сярод іх дзе-ні-дзе паблісквае на сонцы вузенькая шкляная істужка— рэчка. І відаць усё далёка-далёка, мо' за дзесятак кілометраў. Калгас-жа іхні з гэтай елкі здаваўся зусім блізка, як рукой падаць. „Вось, думае ён, каб разагнацца ды скокнуць—якраз-бы туды даскочыў".

Алёшка доўга ўглядаўся ў шырокую даль, з захапленнем любаваўся краявідам. І дзіўна было яму, што раней ніколі не здагадаўся выбраць такое месца. А колькі-ж ён пералазіў па дрэвах, але ўсё ў самым бары, адкуль нічога цікавага не ўбачыш.

Раптам увага яго спынілася на бліжэйшых кустах. Адтуль выходзіла нейкая жанчына ў белай хустцы, у цёмным кафтане, з кашом у руках. Ідзе, чамусці, крадком, спавагу, аглядаецца. Вось стала яна на поплаве, крыху пастаяла. Здавалася, трапіла сюды першы раз, заблудзілася і шукае дарогі. А потым, адразу, як каршун з вышыні на сцікаваную здабычу, шусь у ячмень...

Сэрца Алёшкава моцна затахкала. І ён не зводзіў з яе вачэй. Ячмень, нібы жывы, зашавяліўся ў тым месцы.

Што-ж рабіць? І нідзе нікога... Сотні мыслей замільгала ў галаве. Але кожная ненадзейная. „Пабегчы ў калгас, перадаць—не гадзіцца: не будзе-ж яна тут чакаць? Злезці з елкі, напалохаць—уцячэ і толькі"...

Нарэшце бліснула і такая думка: не чапаць! Калі хто з вёскі — відаць будзе. Не небам-жа, а зямлёю мусіць ісці яна дамоў. Тады астанецца толькі цішком правесці яе дахаты, а там і затрымаць, нарабіць крыку, каб пачулі. Тым больш, што можа нават і па дарозе хто трапіцца.

Алёшка з нецярплівасцю стаў чакаць. Дрыжыкі прабіралі яго ад напружанасці і ён ледзве трымаўся на суках. У вачах аж стала іскрыцца і ўсё мітусілася. Спакойная роўная даль гайдалася, як на качэлях.

Так мінула з паўгадзіны.

Потым — з ячменю высунулася белая галава. Яна пакруцілася над каласамі ды зноў



знікла. Ячмень заварушыўся, стаў расступацца.

Алёшка яшчэ вышэй стараўся моршчыць бровы, каб хаця не мігнуць. Самы адказны момант: даглядзець, куды яна паверне?

Жанчына труском прабегла пад кусты ды спакойна рушыла поплавам уздоўж поля. Але... не ў калгас, зусім у другі бок...

Усе Алёшкавы планы рассыпаліся, як сухая паразня. І хоць-бы ў твар зірнуць— хто яна?

Мігам саскочыў ён з елкі. „Пераняць, абавязкова пераняць, пазнаць зладзейку", цвёрда парашыў Алёшка. І на ўсю моц памчаўся дарогаю ўздоўж лесу. Каб пераняць, патрэбна было абабегчы бор, за борам вузкую дзялянку поля, аж да пушчы. Адтуль-жа— па новаму Алёшкаваму плану—ісці насустрач, спакойна, нібы выпадкова ўсё гэта.

Мінула хвілін дзесяць. Але яны здаліся Алёшку цэлым годам.

... І вось ён вырас перад жанчынай між кустоў, як спуджаны заяц. Тая адразу жахнулася, стала. Потым, як ні ў чым не бывала, прагаварыла:

— Што ты робіш тут, Алёшка?

Алёшка ўвачавідкі перамяніўся: увесь страх прапаў. Перад ім была яго цётка Аўдоля... І гэта — яна! Ніякай памылкі быць не можа: белая хустка, цёмны кафтан, кош... Усё гэта ён добра прымеціў з елкі.

— А ты, цётка, куды?

— Я?.. З дому... Іду ў пушчу: казалі, баравікоў каля лясніка многа нарасло...

Алёшку аж запякло ў сярэдзіне ад злосці на яе хлусню: ён адразу здагадаўся пра Аўдоліну хітрасць.

— Навошта-ж ты травы цэлы кош нясеш?

Аўдоля здрыганулася. Хваравітая чырвань рассыпалася на яе твары.

— Так сабе... цяляці...

Алёшка забыў на ўсё: яшчэ большая злосць разбірала яго. Дык вось хто яна, гэта яго цётка! І ён, смела гледзячы ў вочы Аўдолі, рашуча сказаў:

— Лжэш! Ячмень пад травою!

Ад такой раптоўнай неспадзяванкі рукі Аўдоліны задрыжалі, кош вырваўся і шлёпнуўся вобземлю. Алёшка прыгнуўся, хацеў падняць траву, каб паказаць ёй, што там знізу. Але цётка, апаматаўшыся, з сілай штурханула яго, падняла кош і падалася ў пушчу.

— Стой! — крычаў Алёшка. — Хадзем у калгас, зладзейка!



— Пашоў вон, шчанё! Не адбілі табе пячонак, дык адаб'юць...

І яна, спяшаючыся, ішла ў лес. Алёшка адчуваў, што голас яе нерашучы, перапалоханы. Гэта яшчэ больш асмельвала яго. І каб настрашыць цётку, ён стаў крычаць:

— Лёня, сюды!

Але ў адказ толькі пушча адгукнулася сваім звонкім рэхам.

Цётка-ж чамусці стала, адвярнулася назад.

— Чаго ты крычыш? Вот-жа які ты гарэзны стаў! — з ласкай загаварыла яна, падыходзячы да Алёшкі.



Нядобрыя думкі завіхрылі ў Алёшкавай галаве. Ён адступіўся, мерачыся, калі што якое — даць ходу.

— Пачакай, Алёшка, я табе нештачка скажу...

— Не падыходзь — крычаць буду! Кажы здалёк!

Аўдоля крыва ўсміхнулася, выставіўшы шчарбатыя зубы. Стараваты твар яе ад гэтага яшчэ болей зморшчыўся.

— Дурненькі ты... Ці-ж так можна на сваю цётку?! Я-ж табе радня, дзіцятка. Другі нават памог-бы...

Аўдоля паставіла кош, засунула руку за пазуху. Дастала адтуль вузельчык. Памаленьку дрыжачымі рукамі развязала яго.

— Будзеш маўчаць—дам,—пакруціла яна на сонцы выпрастаны чырвонец.

І гэта нібы варам апякло Алёшку.

— Мне не трэба тваіх зладзейскіх чырвонцаў! Лёня—скарэй сюды!

Рэха зноў паўтарыла Алёшкаў кліч. А ўслед за ім—ву-рр-ррр! За шагоў колькі з лазовага лахматага куста высунулася морда знаёмага ўжо Алёшку мядзьведзя...

„На дрэва, скарэй на дрэва", вынікла першая думка. Алёшка, як толькі мог, рвануўся ў пушчу.

Дабег да першай елкі, хапіўся за першы, што трапіўся, сук. Але сухі, аброслы мохам сук толькі хруснуў пад рукою: Алёшка сарваўся.

Вурр!—зноў раздалося ззаду.

Пасля гэтага Алёшка доўгі час не бачыў, куды ён імчыцца. Дух захватвае, грудзі і горла нібы разрываюцца, бязлітасна хвошчуць сукі і лапкі аб твар...

Ён-жа не чуе і не бачыць, як сарвалася і адляцела назад шапка, як плывуць па шчоках рагі ад поту і крыві. Ён бяжыць, бяжыць... І ўсё, здаецца, вурчыць і фыркае ззаду калматае страшыдла, сярдзіты і люты звер.

І толькі як зусім выбіўся з сілы, каменем гопнуўся вобземлю: няхай, што будзе...

# Мы маем свае совецкія машыны


Самалёт.


Аўтамабіль-грузавік.


Аўтобус.

Кожны з вас, дзеці, ведае самую простую прыладу працы — **іголку**. Але не кожны ведае, што раней, да рэволюцыі, нават іголкі прыходзілася купляць заграніцай. Таксама і ўсе іншыя прылады працы і машыны прывозіліся з-за граніцы. Царская Расія была самай адсталай краінай.

Зараз-жа мы пабудавалі многа новых заводаў і фабрык. На гэтых заводах і фабрыках мы вырабляем ўсё для нас патрэбнае. **СССР становіцца адной з перадавых краін па вырабу розных машын.**

Возьмем такі цікавы прыклад. У Амерыцы ўжо 14 гадоў як пачалі вырабляць трактары. Мы-ж вырабляем трактары ўсяго 4 гады. І мы не толькі дагналі, а і перагналі Амерыку па выпуску трактароў. Пры тым, нашы трактары лепшыя, больш моцныя і магутныя, чым амерыканскія.

Машына незамянімы памочнік чалавека. Яна дапамагае чалавеку ў працы, выконвае тую або іншую работу. І чым больш будзе ў нас машын, тым больш будзе тавараў, хлеба, метала, вугалю.

Дзесяткі новых машын мы ўпершыню асвоілі і пачалі вырабляць у час першай пяцігодкі.

Машыны дапамагаюць нам перабудаваць усю нашую гаспадарку на новы лад. Усюды і ва ўсякай рабоце ўжываюцца машыны. Вось чаму партыя аддавала і аддае вялікую ўвагу гэтай справе. На 17-ым з'ездзе партыі тав. Сталін у сваім дакладзе заявіў, што зараз машынабудаўніцтва заваявала ў нас першае месца ва ўсёй прамысловасці.

Цяпер у нас ёсць свае совецкія машыны!

І з кожным годам іх будзе вырабляцца ўсё болей і болей.


Врубовая машына.
Ужываецца яна пры здабыванні вугалю. Замяняе працу 30-ці рабочых.


Швейная машына.


Трактар.


Мотоцыклет.


Велосіпед.


Камбайн.



# Маленькія памоцнікі

*Апавяданне старога большэвіка тав. ДАНІЛАВА*

Гэта было даўно, у 1905 годзе. Мы баставалі.

На заводскіх варотах вісеў замок.

Вечарамі рабочыя групамі збіраліся ў гурткі.

Аднаго разу тав. Надзя, што вучылася ў вышэйшай навучальнай установе і кіравала нашым гуртком, сказала:

— Заўтра а поўдні будзьце ў Сінельнай, прыедзе дакладчык.

Слова „дакладчык" яна сказала неяк асабліва, з націскам. Мы зразумелі...

Сінельная — гэта старая, запушчаная фабрыка; яна часта служыла рэволюцыянерам месцам для сустрэчы і гутарак.

Там раслі высокія, густыя кусты, ніхто туды не паказваўся—пустэча, цішыня.

Назаўтра раніцай, адзеўшыся пасвяточнаму, я пайшоў. Ісці было недалёка. Скора я ўбачыў невялікія групы нашых і, прывітаўшыся, далучыўся да іх.

Рабочыя ўсё больш і больш прыбывалі.

З'явіўся Караліхін—рыжы, шыракаплечы здаравяка. Потым Ляпуноў, Цацарын. Ды цяпер і не ўспомніш усіх — многа часу прайшло з тае пары.

Неўзабаве прышла Надзя з двума падарожнікамі.

Першага мы ведалі: большэвік Яша — вясёлы, смуглы. Ён многа разоў быў на нашым заводзе. Другі: невялікі, плячысты, трошкі лысы, з вузенькай бародкай—клінком, у кароткім летнім паліто, быў незнаёмым.

Я пільна ўглядваўся, мне здавалася, што мы недзе сустракаліся.

Раптам успомніў, што я чуў яго выступленне ў совеце рабочых дэпутатаў. Гэта быў Ленін. Так, Владзімір Ільіч.

Ен падстрыг бараду, памаладзеў і яго нельга было пазнаць.

Я маўчаў.

Яшчэ чалавек пяць здагадаліся, хто гэта, а астатнія не ведалі.

Сабралася нас чалавек пяцьдзесят. Усе рабочыя, свае—народ правераны.

Параіўшыся адзін з другім, мы парашылі праводзіць сход у лесе „Сінельнае". І толькі мы пачалі па адным разыходзіцца, як нечаканая „бяда" затрымала нас.

Гэта былі дзеці. Яны стаялі ўвесь час трохі воддаль ад нас. Мы іх не заўважылі і цяпер яны шчыльна абкружылі нас, выстаўляючы наперад свайго „завадзілу".

Ён, чырванеючы і заікаючыся, прагаварыў:

— Можна... можна... Мы з вамі...

— Мы з вамі,—паўтарылі хорам астатнія.

Яны былі свае, заводскія. Мы давалі ім пракламацыі, яны расклейвалі іх на платах.

Мы давяралі ім. Але цяпер была вельмі сур'ёзная справа, і мы лічылі іх дапамогу небяспечнай.

Караліхін махнуў рукою.

— Ідзіце адгэтуль, — сказаў ён. — Рабіць вам тут няма чаго!

Рэбята тапталіся на месцы. Старэйшаму было гадоў шаснаццаць. Яны і не думалі адступаць.

Тут умяшаўся Ільіч. Усміхаючыся, ён паказаў рукою на рослага хлопчыка:

— Не трэба іх чапаць. Яны нам патрэбны, вельмі патрэбны.—І звярнуўся да іх:—Правільна, рэбята?

Абрадаваныя, яны адказалі голасна:

— Правільна!

Мы даручылі рэбятам стаяць „на варце", наглядаць ці не едуць казакі. Яны згадзіліся.

Праз Неву мы пераправіліся на лодках, рэбята на пароме. Яны ўвесь час пільна глядзелі на Ільіча, ён адказваў ім усмешкай.

Мы вышлі на дарогу. Па баках яе ляжалі палі, сонца стаяла пасярод неба. Было цёпла, ціха, быў чэрвень.

Рэбята ішлі за намі.

Ільіч гутарыў з Надзяй, з Яшам пра сённешні сход.

— Мы абмяркуем, што нам трэба рабіць далей,—казаў ён.

Вечарэла.

Калі падыходзілі да лесу, пачулі тупат ног і моцнае дыханне.

За намі бег хлопчык. Яго паслалі таварышы.

— Казакі, казакі!—крычаў ён.

Мы не ведалі, куды хавацца, як быць з Ільічом? У лес? Знойдуць...

Падбегшая група рэбят, зморaная, стомленая, узялася правесці нас праз лес.

— Там балота, мы па балоце і ўцячэм...

Выхад быў знойдзен.

Вялізарнае вязкае балота перагарадзіла шлях казакам.

А мы прайшлі, рэбята ведалі балотныя сцежкі і па адным—спачатку Леніна, затым усіх астатніх—пераправілі на другі бок. Казакі патапталіся, патапталіся на месцы і павярнулі назад. Мы чулі іх крыкі, выстралы.

Усё скончылася добра.

Так дзеці рабочых Неўскай заставы саслужылі вялікую службу правадыру рэвалюцыі.



**Якуб Колас**




Малюнкі В. Тіхановіча

*Працяг* *)

VII.

Пранялася чутка
Па калгасных хатах,
Што суніц у лесе
Нарасло багата,
Што зямля ад ягад
У чырвоных плямах,
Што іх дужа многа
У Ласіных Ямах.
Што гэта за ямы?
І чаму Ласіны?
Сам сябе пытае
Розум той дзяціны.
А пра лес Міхась чуў
Проста дзівы-байкі,
Што там ёсць і белкі,
І ласі, і зайкі.
Нават ёсць мядзьведзі
І ваўкі і вепры,
І што страх якія
Ёсць у лесе нетры.

* * *

Растуціўся лес
Ды ва ўсе бакі,
А на пасеках,
Ух, прастор які!
А трава, трава!
А кусты, кусты!
А навокал хмыз
Ды густы, ґусты!
А па купінах
Каля пнёў, лам'я
Чырвань спелая,
Тых суніц сям'я.

Нібы ўсыпана
Тут каралямі,
І глядзяць яны,
Кралі кралямі—
Сакавітыя,
Як налітыя,



*) Пачатак гл. у №№ 1, 2.

Ды ўсе ладныя
Ды панадныя.
У паветры пах
Ад іх носіцца,
Сама ягада
У рот просіцца.
Прыступілі да збору суніц
Чараўніц,
Захапіліся зборам усе
Па крысе:
Данік і Юра
Ў Жэня—панура,
Оля і мама
Ў Міхась наш таксама.
Сунічку сашчыпле,
Зірне, паварожыць,
Але не у кубак,
А ў роцік паложыць.
Кошык у мамы—
Тры чверці даўно,
А ў Міхася яшчэ
Не закрыта і дно.
За тое-ж Міхасевы
Губы і шчокі
Раскрасілі ў чырвань
Сунічныя сокі.
Ён ходзіць мурзаты,
Навокал глядзіць.
Вось дзяцел стракаты
На дубе сядзіць,
А там, над балотам,
Сарокі трашчаць...
Прапала ахвота
Суніцы збіраць.
Ў хмыз надакучыў,
Трава і кусты
Ў руку намучыў
Той кубак пусты.
На сонцы—спякота.
Ў цяні—камары.
Ну, што за ахвота
Хадзіць па жары?
Пасадзілі Міхася на пень
У цяні.
„Нацягаўся Міхаська за дзень—
Аддыхні!
Падмацуйся хлябком, галубок,
Пасядзі!
Кошык ягад вось тут і збанок—
Паглядзі!
Набяром ягад кубачак твой
Мы не ў знак“.
Міхась толькі кіўнуў галавой—
Няхай так!



Важна сеў Міхась на пні
Між бярозак у цяні,
А суніцы,
Як блазніцы
Сталі хлопца спакушаць,
Араматамі дышаць.
А якія
Сакаўныя!
Проста капае з іх сок,
Ў цукеркі тут на бок!
Хіба ўзяць
Папрабаваць?
Прысеў Міхась над кошыкам—
Суніц там аж за край,
А зборшчыкі за пошукам—
Збіраюць—ну, няхай!
Міхаська забаўляецца—
Па ягадцы ды ў рот.
Суніц не прыбаўляецца,
Хутчэй наадварот.
Такія-ж, брат, салодкія—
Ну, проста не ўтрываць,
Размовы тут кароткія—
Яшчэ дай спрабаваць.
Ў ён зачэрпаў жменяю,
Зачэрцаў раз—другі.
Сунічак усё менее
Апалі берагі...

Эх, збіўся ты з капыціка,
Міхаська, галубок.
Прыходзіць самакрытыка
Разблытваць той клубок.
І давай Міхась
Выходзіць з бяды,
Узмяшчаць прарыў
Ды хаваць сляды.
Узяў кошык ён
І пачаў трасці,
Каб суніц вяршок
Мог са дна ўзрасці.
Страсяне, зірне—
Вось праявіна:
Яшчэ большае
Ў кашы яміна!
Трос іх, трос Міхась—
Праца марная!
Ці работа ўся
Неўдарная?
Толькі сок пацёк
З таго кошыка,
А карысці той—
Ні паўгрошыка.
Ён ізноў трасе,
Строс іх, збіў не ў знак
У чырвоны сыр,
У густы камяк.



Паставіў ён кошык на пень,
Куды хочаш, туды дзень.
Вось бяда, дык бяда!
Не цікава!
І чакае Міхаська суда
І расправы.
Невясёлы сядзіць,
Бы ў цямніцы.
Лепш было-б не хадзіць
У суніцы!
І чуе Міхаська—го-гоо!
Міхась адгукнуўся—чаго-о?
А голас яго невясёлы,
І вочы спушчаны к долу.
Ідуць—маці, Данік, Юра...
Ну, пачнецца зараз бура!
Прышлі. Як зірнулі на кош—
Малюнак не дужа харош:
Ягады ў камяку,
Кош увесь у саку.
Сок расцёкся вакруг,
Стаў прыманкаю мух.
А Міхась—мурзаты,
Выгляд вінаваты.
Напаў на Міхася Даніла—
Сякі і такі ты дурыла!
Ты—шкоднік,
Нягоднік!,
Што-ж ты нарабіў?
Чуць Міхася не біў!
І Юркавы чуліся словы:—
Сякі і такі безгаловы!
Вушы яму адарваць!
У лес яго болей не браць!
Міхась апусціў вачанята
І маўчыць—вінавата.
Здорава бралі Міхася,
Покі злосць улеглася.
А маме дык стала
Міхаські шкада.
— Ну, годзі крычаць вам!
Такая бяда!
Утрэсваў іх трошкі,
Рабіў не на зло—
Каб болей сунічак
У кош увайшло...
Прызнайся, Міхаська, ты мне:
Так было гэта ці не?—
Павесялеў наш бядак,
На запытанне адказвае:—Так!
Дадому ішлі, жартавалі,
І ясны Міхасеў быў твар.
Хоць жартам яго і празвалі—
Ягадны спец-сыравар.

(*Працяг будзе*).

Э. Распэ

# ПРЫГОДЫ МЮНХАУЗЕНА

„ПРЫГОДЫ МЮНХАЎЗЕНА“—ГЭТА ВЯСЁЛАЯ І ЗАБАЎНАЯ КНІЖКА. ГЕРОЙ ГЭТАЙ КНІЖКІ МЮНХАЎЗЕН РАСКАЗВАЕ АБ СВАІХ ПРЫГОДАХ. КОЖНАЕ ЯГО АПАВЯДАННЕ—ГЭТА ЦІКАВАЯ ХЛУСЬНЯ, ПАДОБНАЯ НА КАЗКУ.

ДВА АПАВЯДАННІ З ГЭТАЙ КНІЖКІ МЫ І ДРУКУЕМ У ГЭТЫМ НУМАРЫ ЧАСОПІСІ.



## 1. Конь на страсе

Я выехаў у Расію верхам на кані.

Было гэта зімою. Ішоў снег.

Конь прыстаў і ледзве зменьваў ногі. Мне вельмі хацелася спаць. Я чуць не падаў з сядла ад стомленасці. Але дарэмна шукаў я начлега: па дарозе не трапілася мне ніводнай вёскі.

Што было рабіць? Давялося начаваць у пустым полі.

Кругом ні куста, ні дрэва. Толькі маленькі слупок тырчаў з-пад снегу. Да гэтага слупка я сяк-так прывязаў свайго азябшага каня, а сам лёг тут-жа на снягу і заснуў.

Спаў я доўга, а калі прачнуўся, дык убачыў, што ляжу не ў полі, а ў невялікім гарадку: з усіх бакоў мяне акружаюць будынкі.

Што такое? Куды я трапіў? Як маглі гэтыя будынкі вырасці за адну ноч?

І куды падзеўся мой конь?

Доўга я не мог зразумець, што здарылася. Раптам чую знаёмае іржанне. Гэта іржэ мой конь. Але дзе-ж ён?

Іржанне чуваць аднекуль зверху. Я падымаю галаву і што-ж! Мой конь вісіць на страсе званіцы. Ён прывязаны да крыжа.

Я адразу здагадаўся, у чым справа. Учора вечарам увесь гэты гарадок з усімі людзьмі і будынкамі быў засыпаны глыбокім снегам, і зверху тырчаў толькі крыж. Я не ведаў, што гэта крыж, мне здалося гэта—маленькі слупок, і я прывязаў да яго майго каня! А ўночы, пакуль я спаў, пачалася адліга, снег растаў, і я непрыкметна апусціўся на зямлю. Але бедны мой конь так і астаўся

наверсе на страсе. Прывязаны да крыжа званіцы, ён не мог спусціцца на зямлю.

Што было рабіць?

Нядоўга думаючы, я схапіў пісталет, прыцэліўся і папаў проста ў вуздэчку, бо я заўсёды быў выдатным стралком.

Вуздэчка разарвалася папалам. Конь скоранька спусціўся ка мне.

Я ўскочыў на яго і як вецер памчаўся ўперад.

## 2. Дзіўнае паляванне

Аднаго разу я прабыў на паляванні ўвесь дзень. Падвечар сустрэў у лесе нейкае вялікае возера, якое так і кішэла дзікімі качкамі. Ніколі не бачыў я такога мноства качак!

На жаль, у мяне не асталося ніводнай кулі. А якраз гэтым вечарам я чакаў да сябе гасцей і мне хацелася пачаставаць іх дзічынай.

Доўга я стаяў, не ведаючы, што зрабіць, і раптам успомніў, што ў маёй сумцы астаўся кавалачак сала.

Ура! Гэта сала будзе найлепшаю прынадаю! Я ўзяў сала, прывязаў яго да доўгай і тонкай вяровачкі і кінуў у ваду.

Качкі ўбачылі сала і зараз-жа падплылі да яго. Адна з іх адразу праглынула сала. Але сала было слізкае, яно скоранька прайшло скрозь качку і выскачыла ў яе ззаду!

Такім чынам качка аказалася ў мяне на вяровачцы.

Тады к салу падплыла другая качка, і з ёю здарылася тое-ж самае. Качка за качкай глыталі сала і нанізваліся на маю вяроўку як на нітку. Не прайшло і дзесяці мінут, як усе качкі былі начэплены на яе, як пацеркі. Можаце сабе ўявіць, як весела было мне глядзець на такую багатую здабычу. Мне аставалася толькі выцягнуць злоўленых качак і занесці да майго повара на кухню. То-та будзе вячэра для маіх гасцей!

Але цягнуць гэтулькі качак было не лёгка.

Я ступіў колькі шагоў і страшна змарыўся. Раптам — можаце ўявіць сабе маё здзіўленне!—качкі ўзляцелі ў паветра і ўзнялі мяне да хмар.

Другі на маім месцы струсіў-бы, але я чалавек смелы і здагадлівы. Я зрабіў руль з майго паліто і, кіруючы качкамі, хутка даляцеў да майго дома.

Але як спусціцца ўніз? Вельмі проста! Мая здагадлівасць дапамагла мне і тут. Я скруціў некалькім качкам галовы і яны пачалі памалу апускацца на зямлю. Я папаў як раз у комін мае кухні! Каб вы толькі бачылі, як здзівіўся мой повар, калі я з‘явіўся перад ім на пліце! На шчасце ён яшчэ не паспеў раскласці ў ёй агонь.



# ПТУШКІ—НАШЫ СЯБРЫ

Канец сакавіка! Снег пачаў раставаць і ручаямі паплыў да рэчак і азёр.

Усё ажыло. Усё пачало падымацца да цёплага сонца. Зялёнымі абрусамі пакрыліся лугі.

Прышл вясна!



**Жаваранак.**

Заспявалі птушкі. У садах, дзе стаяць вялікія дрэвы, чутна моцнае карканне гракоў. Ідзе работа над папраўкай гнёздаў. Птушкі ў дзюбах цягнуць галлё, сухую траву.

Самка кнігаўка сядзіць у гняздзе на яйках. Гняздо яе зроблена на голай зямлі ў невялічкай ямачцы. Яек пакладзена чатыры. Усе яны шэранькія, як адно.



**Салавей.**

Звініць голас жаваранка! У ямачцы, зробленай конскім капытом, ляжаць яго пяць шэранькіх яек.

Вось ужо і красавік!

Прыляцелі ластаўкі!

Цікава спявае ў кустах салавей. Тут-жа, на сучках, вісіць яго гняздо. Яно ўслана пухам і шэрсцю.

Шпак заняў сваю хатку. Другі пасяліўся ў дупле старой ліпы.

А ці чулі вы слаўку-перасмешніка? Калі не, дык паслухайце. Ён пырхае ў густых кустах лесу. Ён вельмі прыемна спявае! Не дарма-ж ён завецца—перасмешнік.

А ёсць яшчэ адзін перасмешнік. Ён завецца іначай—пеначка. Гэта птушка вельмі клапатлівая і жвавая. Яе гняздзечка, як мяшочак. Ну, сапраўдны мяшочак! Толькі зроблены ён з сухой травы ды лістоў. У сярэдзіне высланы пухам і шэрсцю. У ім у маі будзе пакладзена шэсць яек.

А ці ведаеце вы птушку, што бляе, як баран? Яна завецца—бекас. У балоце, на купіне, яе гняздо. У тым гняздзе тры шэрых яечкі.

Што за гукі такія нясуцца з балота?

— Хулллу... Хулллу...

Гэта цецярук балбоча ўранні.

Самка-ж — цяцерка, зрабіўшы гняздо ў багуне, выводзіць малых птушанят. Ужо ў ліпені іх можна бачыць разам з маткай на сенажаці. Іх бывае не больш дзесяці.



**Шпак.**



**Слаўка-перасмешнік.**

* * *

Як толькі пацяплее, многа розных шкодных казюлек, жукоў і матылёў вылятае з зямлі. Яны губяць сады і пасевы, знішчаюць ураджай.

Але тут на дапамогу чалавеку выступае крылатая армія птушак—розныя карысныя птушкі. Жаваранкі паядаюць чорныя коканы матыля. Шэранькія трасагузкі знішчаюць яйкі гэтых матылёў, пакладзеныя на нашых гародах, а шпакі з'ядаюць чарвей, якія выходзяць з гэтых яек. Ёсць адзін вусень, які абядае лісце на дрэвах у садах. Птушкі не ядуць гэтага вусеня, бо яшча яго атруты. Але ёсць такая птушка—зязюля. Яна не баіцца атруты і знішчае мноства гэтых вельмі шкодных вусеняў.



**Кнігаўка.**

Птушкі—сябры чалавека. Ахоўвай птушак! Не разбурай іх гнёздаў.

**М. ЦЭЛЕШ.**

## Лабірынт

Перад табою цікавы малюнак. Гэта не простыя лініі, — паміж імі ёсць праходы ад



краю ў сярэдзіну. Паспрабуй па адным з такіх праходаў прабрацца ў цэнтр лабірынта.

## „Ненасытная шклянка"



Фокус гэты вельмі цікавы. Каб яго зрабіць, трэба мець пілавінне, ваду, талерку і шклянку.

Насыпце ў шклянку пілавінне і вазьміце другую шклянку вады. Спытайце ў прысутных: „Ці змесціцца вада ў пілавінні?" Вам адкажуць:

— Не.

Тады вы вылівайце ваду ў пілавінне. Пілавінне ўцягне яе, і ў адной шклянцы ўмесціцца шклянка вады і шклянка пілавіння.

Чаму так выходзіць? Падумайце самі. Калі не ведаеце,—спытайце ў настаўніка.

## Загадачны малюнак

Паглядзі на гэты малюнак уважліва і знайдзі на ім лыжніка.





ВЫДАВЕЦТВА ЦК ЛКСМБ „ЧЫРВОНАЯ ЗМЕНА". Рэдактар А. ЯКІМОВІЧ.

Друкарня імя Сталіна. Заказ № 366. 12.670 экз. Менгарліт № 961.